# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 39 (2233)

26 верасня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.

## ЖЫВЕ РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ!





19 верасня на сесіі Вярхоўнага Савета ў Мінску адбылася гістарычная падзея: наша шматпакутная краіна ўпершыню за многія стагоддзі набыла вартую сябе назву — Рэспубліка Беларусь. Заканадаўчы акт, што зацвердзіў гэту назву, стаў першым Законам, прынятым Вярхоўным Саветам дзяржавы, якая цяпер так называецца. Змена назвы рэспублікі выклікала неабходнасць змены яе дзяржаўнай сімволікі. Думкі дэпутатаў наконт герба і флага былі дыяметральна супрацьлеглыя. І ўсё ж на гэтай самай сесіі народныя дэпутаты прынялі Закон аб унясенні змяненняў у Канстытуцыю. У Рэспубліцы Беларусь адроджана нацыянальна-гістарычная сімволіка: бела-чырвона-белы флаг і герб "Пагоня". З гэтага дня над будынкамі ўсіх Саветаў упершыню ў гісторыі ўзаўюцца дзяржаўныя бела-чырвона-белыя сцягі. Ранейшая дзяржаўная беларуская сімволіка, сказаў новы Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, праз некаторы час будзе знята і змешчана ў музеі, як гэта робіцца ва ўсякім цывілізаваным грамадстве.

Здымкі, змешчаныя вышэй, былі зроблены за некалькі тыдняў да азначанай падзеі. Над будынкам Мінскага гарадскога Савета, на галоўнай плошчы беларускай сталіцы, якая пакуль яшчэ носіць імя Леніна, залунаў побач з дзяржаўным беларускі нацыянальны бела-чырвона-белы сцяг. Чырвоны касцёл, што знаходзіцца насупраць гарсавета, таксама выглядае цяпер так, як яму належыць: яго купалы вянчаюць крыжы. Усё вяртаецца на кругі свае.

Фота С. КРЫЦКАГА.

### НЯМЕЦКІ МАСТАК АНАТОЛЬ ЧАЙКОЎСКІ – НАШ ЗЯМЛЯК

## ДУША АДКРЫЛАСЯ

Неаднойчы даводзілася канстатаваць бясспрэчны для мінулых часоў факт, што сярод беларускай эміграцыі, на жаль, мала людзей адукаваных, творчых. Сапраўды, карэспандэнты "Голасу Радзімы" часцей за ўсё былі з сялян ці рабочых. Сярод гасцей рэдакцыі таксама даводзілася сустракацца найбольш з фермерамі, шахцёрамі, хатнімі гаспадынямі. Яны любяць і памятаюць сваю бацькаўшчыну, радуюцца сустр[illegible] з ёю, але многія амаль страцілі сваю мову. Можна сказаць, што ў апошняе пяцігоддзе адбываюцца сапраўдныя адкрыцці. Ёсць сярод замежных беларусаў выд[illegible]я пісьменнікі, вучоныя, музыканты, мастакі, цэлы пласт інтэлігенцыі, якая захавала родную мову, здолела перадаць яе сваім дзецям і нават унукам. Творчасць замежных беларусаў паступова становіцца і нашым здабыткам, узбагачае наш духоўны свет.

Зусім нядаўна стала вядома на Беларусі новае імя — Анатоль Чайкоўскі. Выстава гравюрных і графічных работ мастака "Геапаэзія малявання" адбылася ў Мінску ў Доме работнікаў мастацтваў. Наведвальнікі маглі пазнаёміцца амаль з 50-ю творамі А. Чайкоўскага. І ўсе карціны засталіся тут, падораныя нам мастаком.

На выставу адгукнуліся многія рэспубліканскія выданні: незвычайны аўтар — нямецкі мастак беларускага паходжання, незвычайныя работы — "пачуцці, выказаныя фарбамі". Ці варта ў гэтых творах шукаць беларускія матывы, ці адчувае аўтар сваю прыналежнасць да зямлі бацькоў? На гэтыя і іншыя пытанні адказаў Анатоль ЧАЙКОЎСКІ ў час нашай гутаркі ў рэдакцыі "Голасу Радзімы".

— Я нарадзіўся ў Нямеччыне. Мне 44 гады. Жыву каля Мюнхена. Маю атэлье, афортны станок, — расказваў пра сябе госць. — Два гады назад пазнаёміўся з супрацоўнікамі Міністэрства культуры БССР. Сёлета яны запрасілі мяне прыняць удзел у культурнай праграме, прысвечанай 100-годдзю Максіма Багдановіча.

— А раней не хацелі прыехаць у Беларусь? Ці не было такой нагоды?

— Я проста не мог прыехаць раней, хаця заўсёды адчуваў сябе больш беларусам, чым немцам. Калі згадваць пра мае карані, то я адчуваю, што яны тут. Ад дзеда і бабулі многа чуў пра Беларусь і па іх словах уяўляў яе. Дома ўсе і заўсёды размаўлялі па-беларуску, і я ведаю гэтую мову, нават думаю на ёй.

— Ці ёсць у вас сваякі ў Мінску?

— Так. Пляменнік дзядзькі, а дзядзька жыве ў Амерыцы. Гэта Янка Юхнавец. Яго вершы ўжо тут друкаваліся. Дзядзька жанаты з сястрой маёй маці. Мой дзед па маці да вайны працаваў у Мінску у Міністэрстве эканомікі, у 30-х гадах быў рэпрэсіраваны, сядзеў у турме. У час вайны адступіў разам з немцамі, забраўшы жонку і дзвюх дачок. Бацька ж мой трапіў да немцаў у палон. У Нямеччыне яны з маці і сустрэліся.

— А бацька жыве яшчэ?

— Жыве. Яму 79 гадоў. Родам ён з Клецка. Па яго просьбе я там пабываў. Знайшоў магілу дзеда.

— Дзеда па бацьку?

— Так. Бацька мой таксама мастак. Да вайны працаваў у Клецку настаўнікам малявання. У 1938 годзе ён намаляваў ікону, якую загадаў мне адшукаць. Казаў, што раней яна захоўвалася ў царкве Святога Пакрова, абмаляваў, якая яна.

— І знайшлі вы тую ікону?

— Знайшоў. Хоць многа ўсяго з ёю было. У 60-х гадах царква згарэла, але вернікі ікону вынеслі, зберагалі, а як царкву нядаўна аднавілі, павесілі ікону зноў. Мне пра гэта расказвалі суседзі, якія яшчэ памятаюць бацьку, паказалі, дзе стаяла яго хата. Яе немцы ў час вайны спалілі. Я ў Клецку многа фатаграфаваў для бацькі. Таксама па яго просьбе.

— А бацька прыехаць не збіраецца?

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## АЗІРНУЦЦА НА ТОЕ, ШТО БЫЛО, ПАДУМАЦЬ ПРА БУДУЧЫНЮ

# МАЛЮНКІ ДА КАЗАК ДЗЯЦІНСТВА

Жыццё спяшаецца, абганяе дні і ночы, гады і вякі. У гэтай хуткаплыннасці часам некалі азірнуцца на тое, што было, як і некалі падумаць пра будучыню.

А будучыня палохае жорсткасцю і безнадзейнасцю. Мітусня і безабароннасць, абыякавасць і бязвер'е крышаць, паласуюць рэшткі надзей. Але жыве і чакае поклічу дабра душа твая. І тады як паратунак яркімі плямамі паўстаюць успаміны дзяцінства, родныя сцяжынкі, што стужкамі ляжаць недзе ў шырокай палявой прасторы ці па лугавінах. Такія звычайныя і знаёмыя ў дзяцінстве і такія таямнічыя, поўныя невыказнай прыгажосці, амаль жывыя істоты, калі ты стаў дарослым. І цягнецца душа і сэрца да гэтых дарагіх талісманаў, каб зноў адчуць клопат аб сабе роднай маці-зямліцы, якая адна на ўсё жыццё. Сцежкі на гэты раз вядуць на магілкі ў светлы дзень Радаўніцы.

Яшчэ здалёк бачна купка бярозак, такіх да болю знаёмых, што прысвяцілі сваё жыццё пяшчотнай еднасці з тымі, хто знайшоў пад іх ценем вечны спакой.

Ручаінкі сцяжынак ужо вывелі на шырокі бальшак. Азіраюся, пазнаю, дыхаю на ўсе грудзі чыстым паветрам.

Але дзе ж Сівая Лаза? Маленькае азярцо, што поўным да краёў кубачкам плёскалася з левага боку бальшака, які вядзе ад вёскі Стайкі (каля Оршы на Віцебшчыне) да могілак. Азіраюся па баках зноў і зноў: няма азярца, толькі гурбы пяску, кар'ер, паабапал якога там-сям прабіліся сціплыя кветачкі сон-травы. Пытаюся ў дваюраднага брата Сашы, што ўсё жыццё жыве і працуе тут.

Пацвердзіў: знікла возера, пайшло пад зямлю, само сябе пахавала, каб уваскрэснуць у нейкім куточку, дзе людзі больш добрыя і чулыя. Не вытрымала возера грукату самазвалаў, бензінавага смуроду, а яшчэ больш выкапанага побач кар'ера, дзе бралі пясок для калгаснай будоўлі. Дамы ўзвялі, а азярцо загубілі. І сонца быццам помсціць, няшчадна смаліць, і Сівой Лазы так бракуе...

Бярознічак жыве сваім жалобна-ўрачыстым жыццём. Тут адбываюцца сустрэчы з дарагімі магілкамі, з блізкімі і роднымі людзьмі, са сваякамі, землякамі. Спяшаюцца сюды, кінулі на час вялікія і малыя справы, высокія і менш значныя пасады. Хто штогод сюды прыходзіць, хто радзей.

Нешта няўлоўнае яднае людзей. Гэта і памяць аб дарагіх сэрцу людзях, і гасціннасць, такая тыпова беларуская, якую цяжка сустрэць яшчэ дзе-небудзь на свеце. Частуюць, запрашаюць падысці да іхніх магілак.

І ўспаміны, успаміны...

Не была тут тры гады, а ўжо многіх вяскоўцаў няма сярод прыйшоўшых тады. Але, як заўсёды, сакочa жвавая, няўрымслівая баба Ісачыха. Пра ўсіх яна ведае, пра ўсё помніць. Ад яе я і пачула пра свайго дзядзьку Кастуся, падрабязнасці яго высылкі ў Сібір у 1934 годзе. "Ах, які быў твой дзядзька Кастусь! Граў на ўсіх інструментах, такі музыка, такі разумнік. І такога чалавека загубілі, струшчылі. І за што? Бараніў на вечарынках моладзь. Пасля бойка была ізноў. Загінуў адзін з вясковых беднякоў. А дзед твой лічыўся заможным серадняком, хутар меў, добра вёў з сынамі гаспадарку. Любілі дзеда суседзі. Моладзь узімку збіралася на вашым хутары, пелі, гулялі, дзеўкі пралі, гафтавалі. Дзед твой любіў гаварыць: "Працаваць — дык працаваць, а гуляць — дык гуляць".

І вось схапілі Косцю, выслалі ў Сібір. Але і там кіраваў на лесанарыхтоўках духавым аркестрам. Захварэў на запаленне лёгкіх, там у Сібіры і памёр. Паставілі у тайзе над магілкай бярозавы крыж верны сябар Трахім, які трапіў туды разам з Кастусём і якому пашанцавала вярнуцца на радзіму. І потым усё жыццё пры размове пра яго выходзіў у сенцы, доўга курыў.

Так і распачаў Кастусь пагібель чатырох сваіх братоў. Ажаніўся з удовай нявесткай брат Пілiп, вывез сям'ю ў Ленінград, працаваў на Кіраўскім заводзе ў час блакады, закрыў вочы з голаду якраз у той дзень, калі прыйшоў у горад выратавальны чырвоны абоз.

У першыя дні вайны на Салаўёвай пераправе шалёная куля абарвала жыццё брата Міколы. Нічога не ведалі пра яго, і толькі гадоў пяць таму назад вучні Кардымаўскай школы на Смаленшчыне паведамілі пра месца пахавання Мікалая Шульгі — у брацкай магіле пад Кардымавам.

Схапілі немцы самага малодшага пятнаццацігадовага Васіля ў час вайны, пагналі ў палон.

Прайшоў праз усе пакуты Нямеччыны, але кемлівы і шустры хлапчук уцёк з сябрам з палону. Перайшлі мяжу, трапілі ў Бельгію, змагаліся разам з бельгійскімі партызанамі. Застаўся жывы. Нарэшце ў родную хату прыйшоў доўгачаканы трохкутнічак. Ледзь бачныя літары, напісаныя алоўкам, прынеслі радасную вестку: жывы Васілёк, прыедзе хутка дадому. І стаялі перад абразамі на каленях бацькі, маліліся шчыра, са слязьмі і паклонамі, дзячылі Бога за міласць такую вялікую. Але не хуткім было вяртанне Васіля ў родны дом. Ужо амаль да Брэста дабраўся, як пайшлі чуткі, што няма літасці тым, хто быў у палоне. А тут і вярбоўшчык пацвердзіў і прапанаваў ехаць на востраў Сахалін, ад бяды далей. Так і зрабілі хлопцы, паехалі на шахту працаваць. Калі трохі сцішылася, прыехаў Васіль у адпачынак, але не застаў ужо ў жывых бацьку, памёр, моцна застудзіўшыся. Зарабляў грошы на будаўніцтва сваёй хаты, думаў аднавіць тое, што было — васьміпакаёвы дом, сад, сажалка ў садзе, дзе заўсёды было ўтульна і радасна. Ажаніўся Васіль у Оршы, дачок узгадаваў, жыў добра, людзей любіў, і яны яго — за дабрыню, вясёлую душу, за песні пад гітару. А сэрца вяло адлік праз засечыны цяжкага лёсу і не вытрымала аднойчы.

Паспеў вяселлі дочкам справіць Васіль, а ўнукаў не дачакаўся.

Застаўся пільнаваць родную хату, магілкі, памяць апошні сын — Эдуард, былы франтавік, кавалер двух ордэнаў Славы. Моцна любілі адзін аднаго браты, ніхто ніколі не чуў, каб паспрачаліся ці абразілі хоць адным слоўцам. І схіляецца над помнікам сівая галава Эдуарда, які часта ідзе да дарагой магілкі, нягледзячы на хворыя ногі.

Ад'язджаю ў Мінск. Праз вокны вагона мільгаюць такія знаёмыя краявіды. Вось і знаёмыя лінкі стаяць на варце, сустракаюць і праводзяць. Праз іх дарога да рэчкі дзяцінства — Аршанкі. І я бяру на памяць гэтыя дзівосныя малюнкі да казак дзяцінства. Адчуваю непераадольнае жаданне раскідаць па родных сцяжынках свежыя ружы.

**Ала КАЖЭРА.**






# ЧЭРГІ ЛЯ ГРАНІЦЫ

**Тысячы машын утвараюць даўжэзную чаргу, якая імкнецца перасячы мяжу каля КПП "Варшаўскі мост". Не спраўдзіліся прагнозы тых, хто з 1 ліпеня прадказваў спад напружання ў пунктах пераходу. Чарга зноў дасягае сямі-васьмі кіламетраў, у чатыры-пяць разоў перавышаючы прапускную здольнасць КПП. Назваць гэта нармальным становішчам спраў нельга. Бо чакаць таможнага дагляду даводзіцца суткамі. Да таго ж гэта чарга нарадзіла катэгорыю "транспартных маклераў", якія гандлююць месцамі ў аўтамабільным ланцугу. Па звестках газеты "Брэсцкі кур'ер", займаецца гэтым арыгінальным промыслам моцна арганізаваная група. Кошт аднаго месца ў чарзе даходзіць да дзвюх тысяч рублёў, у залежнасці ад блізкасці да прапускнога пункта. У сувязі з гэтым пытанне аб становішчы на пагранічных пераходах плануецца вынесці на бліжэйшую сесію абласнога Савета народных дэпутатаў. А наш Вярхоўны Савет, урад рэспублікі марудзяць, што можа дорага каштаваць і без таго аслабленай эканоміцы. Таможня надзейна ахоўвае інтарэсы дзяржавы, у дзесяткі разоў акупляе ўсе затраты на яе. Толькі сёлета яна прадухіліла вываз за мяжу розных каштоўнасцей на многія мільёны рублёў.**

**У той жа час польскі бок спрабуе абараніцца ад наплыву нашага "прыватнага бартэра" і абараніць свае дзяржаўныя інтарэсы. Савецкія турысты, якія запаланілі сваім таварам польскія рынкі, сур'ёзна дэзарганізуюць работу нацыянальнай прамысловасці і асабліва гандлю. Таму павялічаны падаткі на ўвоз іншаземцамі ў Рэспубліку Польшча розных тавараў. Моцны ўдар нанесены і гарэлкаваму "бізнесу". Дазваляецца ўвозіць у краіну толькі адну бутэльку спіртнога, якая не абкладваецца пошлінай. Бутэлькі, што ўвозяцца звыш нормы, таможнікі адбіраюць і забараняюць уезд парушальнікам. На пашпартах робіцца спецыяльная адзнака, якая закрывае на паўгода ўезд у краіну. А за гандаль спіртным з-пад палы прадугледжаны высокі штраф — паўмільёна злотых.**



НА ЗДЫМКАХ: такога зборышча транспартных сродкаў і людзей пагранічны праход "Варшаўскі мост" у Брэсце яшчэ не бачыў; штодзённа пагранічнікі адбіраюць у часткі "турыстаў" дзесяткі падробленых і пратэрмінаваных пашпартоў; напружаная работа ў пагранічнікаў прапаршчыка М. ГЕРАНЯ і малодшага сяржанта С. ЛУНГУ.

Фота Э. КАБЯКА.

# ДАГАВОР ТРОХ

Сяброўству галандскай вёскі Маркела і беларускай Крупіцы ўжо некалькі год. А пачатак яго — на міжнародным фестывалі фальклору ў Італіі, у якім прымаў удзел наш славуты калектыў "Крупіцкія музыкі". Сяброўства гэта набывае ўсё новыя рысы. Зусім нядаўна дзеці ўдзельнікаў самадзейнасці крупіцкага сельскага клуба вярнуліся з адпачынку ў Галандыі. Культурная праграма, якую ім прапанавалі гаспадары, была вельмі цікавая і насычаная. Дэльфінарый, дыснейленд, заапарк, коннаспартыўная школа — вось далёка не поўны спіс адрасоў, дзе пабывалі дзеці разам з новымі сваімі сябрамі.

Свая праграма была і ў чатырох урачоў Пяцеўшчынскай участковай бальніцы: яны знаёміліся з сістэмай аховы здароўя Галандыі. Гаспадары паказалі ім такс+ма тыпавы праект амбулаторыі, якую збіраюцца пабудаваць і цалкам абсталяваць усім неабходным у Крупіцы. Пры гэтым будуць улічаны ўсе пажаданні ўрачоў, а пакуль Пяцеўшчынскай участковай бальніцы яны падаравалі "Мерседэс" — "хуткую дапамогу", медыкаменты і медыцынскае абсталяванне на дзесяткі тысяч рублёў. Акрамя таго, Віктару Нікаленку ў асабістае карыстанне падаравалі аўтамабіль шведскай фірмы "Сааб", палічыўшы, што сельскаму хірургу ён будзе вельмі дарэчы ў рабоце.

Амбулаторыя — гэта першы этап. Наступны — прыбудова да яе лячэбнага корпуса на 100 ложкаў.

Маркела парадненая з невялічкім нямецкім горадам Спэла, у які ў час знаходжання ў Галандыі быў запрошаны старшыня Крупіцкага сельсавета Вячаслаў Тумiловіч. І такім чынам быў заключаны дагавор Маркела — Спэла — Крупіца.




129

Ён усё ж ткі хоча мець асабістага шчасьця толькі ў такой меры, каб мець цьвёрды грунт для змаганьня за шчасьце ўсіх, за шчасьце цэлага народу. А гэтае жаданьне ня так ужо вялікае, яго-бы толькі пакахала Вярхоўская. Яму здавалася: тады паверыў-бы ў сваю вартасьць, тады ён быў-бы шчасьлівы, і тады ён мог-бы стаць сябрам Грамады Кірылы. Ён пачаў дзейна рыхтавацца. Яго лёс — там ён пабача, ці можа яшчэ яго кахаць Вярхоўская. Першы раз у сваім жыцьці Тугоўскі рашыў ужыць парфумаў. Але студэнцкія рэсурсы дазволілі яму купіць толькі маленькую бутэлечку самых дрэнных пахучых зёлак. Перад ад'ездам на вечарыну ён выліў усю бутэлечку на свой касьцюм, выпрасаваны ўласнай рукой, і, стаўшы нейкім дзівам — ад паху такога трэба было ўцякаць за вярсту, — выйшаў вясёлы з інтэрнату. Каб не спазьніцца, ён ускочыў у першы папаўшыйся трамвай, адразу заліўшы яго сваім пахам. Нейкі старык, сядзеўшы каля яго, задыхаўся і, увесь зморшчаны, азіраўся на Тугоўскага. Відацца было, ён ня мог выседзець. Нарэшце ён ня выцерпеў і голасна на ўвесь трамвай прахрыпеў: “Фуй, сядзець няможна. Вы так напарфуміліся, чалавеча, што я дыхаць не магу“. Усе засьмяяліся на чале праважатага вагону. Тугоўскі пачырванеў. Ён толькі засьмяяўся і адсеў далей ад ненавіснага старыка. Нарэшце ён прыехаў да блішчэўшага вагнямі вялікага будынку “Чэска-Рускай Едноты“. Прыгожыя сінія і чырвоныя ліхтары качаліся каля пад'езду і лілі на белы сьнег свае дзіўныя чырвона-сінія праменьні. Некалькі аўтамабіляў стаяла каля ўходу, выстраіўшыся ў адну лінію. Разубраная шумная таўпа падымалася ўверх па засланай каберцам драбіне ў залітую сьветам залю. Дамы

130

ў раскошных вячэрніх туалетах, мужчыны ўва фраках, візоўках і смокінгах, вайсковыя ў сваіх бліскучых мундырах, студэнты ў простых, выдадзеных камітэтам[1] касьцюмах; усе плылі з шумам, з сьмехам, знаёмячыся і затрымліваючыся на хаду, плылі безупынна, запаўнялі ўсю залю пахучым да кружэньня галавы паветрам. Заля была невялікая, пры гэтым большасьць зьявіўшыхся належала да сяброў і была ўжо знаёма паміж сабой, так што ў залі адразу запанавала атмасфэра сямейнай утульнасьці. У першых радах, перад невялікім памостам для сцэны, расселіся прафэсары унівэрсытэта, чэхі і расейцы. Перад імі стаяў чырвоны і прыгожы, з бела-чырвона-белым беларускім значком у пятліцы фрака прафэсар расейскай літэратуры Карлавага унівэрсытэту крытык і публіцыст Ляцкі.[2] Каля яго ўвесь час круціўся вясёлы і сьмяюшчыйся “даўгагрывы“ беларускі студэнт Тамашэвіч, гаспадар сяньняшняга вечара. Ён аб нечым радзіўся з прафэсарам Ляцкім — нешта вясёла тлумачыў яму, падхадзіў да чэскай і расейскай прафэсуры ў першых радах. Беларускія студэнты ў поўным сваім ліку разьмясьціліся сярод гасьцей у розных мейсцах залі; сябры яго стаялі каля сьцяны, недалёка ад уходу. Тугоўскі аглядзеўся. Ён убачыў толькі што ўхадзіўшую Вярхоўскую і падышоў да яе, дапамагаючы распрануцца. Яна была ў раскошным бальным убраньні, з голымі рукамі, з вялікімі бантамі, з нейкімі хвастамі й стужкамі, з гарэўшымі на ўбраньні брошкамі й пэрламі. Як пэрлы, можа быць яшчэ больш яскрава, гарэлі яе глыбокія вочы. Яны ўвайшлі разам у залю, і дзесяткі вачоў акінулі іх. Па залі адразу панёсься шопат беларускіх студэнтаў: “Тугоўскі з

131

Вярхоўскай“. У гэткім шопаце пачуліся быццам злосныя насьмешкі, і сэрца Тугоўскага сьціснулася ад болю. Ён украдкай зірнуў на Вярхоўскую, але яна была занята сваімі думкамі, а можа быць выдавала так, што была чымсьці занята, й яны моўчкі падышлі да крэслаў і селі. У залі пагасілі вагні. Знамяніты чэскі квартэт філармоніі пачаў свой канцэртны выступ. Такой музыкі яшчэ ня чуў Тугоўскі. Ён слухаў, як заварожаны, падымаючыся на такую нябесную вышыню, што запамятаваў аб усім на зямлі, нават аб тым, што побач з ім сядзела Вярхоўская. Калі квартэт скончыўся і ў залі стала зноў сьвятла, — гро[illegible] воплескаў загрымеў з усіх куткоў. Чэхі пакіну[illegible] залю пад буру авацый. У гэты час падняўся на сцэну высокі і прыгожы прафэсар Ляцкі. Ён паведамляў прысутным, што зараз выступяць беларусы, што беларусы — адзін з славянскіх народаў, які мы яшчэ мала ведаем. Ён доўга гутарыў аб беларусах, аб беларускай літэратур[illegible] аб беларускім руху.

— Будзем спадзявацца, — закончыў ён, — што новае пакаленьне беларусаў, узгадовываючыся ў Празе Чэскай, ня будзе належаць да тых, што адмяжаюць з іншымі, больш старымі суайчыньнікамі...

— Ты чуеш, што ён кажа? — досыць голасна абярнуўся да Тугоўскага сядзеўшы спераздзі Станкевіч. — Гэта ж, я разумею, з такімі асобамі можна арганізовываць вечарыну? Тамашэвіч — здраднік пасьля гэтага.

Ён пачаў шукаць сярдзітымі вачамі Тамашэвіча, гатовы, здаецца, накінуцца на яго. Тугоўскі спужаўся, думаючы, што Станкевіч зараз падыйме скандал і ўстане з прафэсарам у спрэчкі. Але

132

прафэсар скончыў пажаданьнем посьпеху беларусам у іх культурнай працы. Станкевіч замаўчаў; прафэсару плёскалі ў далоні ўсе, апрача беларусаў. Як толькі ён зыйшоў са сцэны, пачаў зьбірацца беларускі хор. Па тварах яго здольнікаў было відацца, што яны прыкметна ўзрушаны перад незвычайнымі слухачамі. Хваляваньне хору перадалося ўсім беларускім студэнтам.

— Ах! — зашаптала Вярхоўская. — Маё сэрца замёрла: сапсуюць.

— Ну, ня будзем хвалявацца, — шапнуў Тугоўскі, пахісьняючыся да яе, — можа быць і нічога.

Паволі, крыху хвалюючыся, хор пачаў:

**Не загаснуць зоркі ў небе,**
**Покі неба будзе...**

І ўсё вышэй падымаўся, здаецца, у самае неба і з моцнай верай загрымеў голас, патрасаючы сьцены залі й людскія душы:

**Не загіне край забраны,**
**Покі будуць людзі...**

Першае хваляваньне прайшло. Вярхоўская аблягчона ўздыхнула й прашаптала: “Нічога. Я думала — будзе горш.“ Хор усё больш і больш прамаўляў да слухачоў; здавалася, што з грудзей кожнага спевака вырывалася слова з асаблівым націскам, з асаблівай верай у прыгожасьць песьні.

Хацелася верыць, хацелася плакаць ад радасьці, што гэта так будзе, інакш і ня можа быць:

**Зацьвіце наш край, як сонца,[3]**
**Пасьля непагоды...**

І разам з хорам уся істота — радасная, шчасьлівая, узмацаваная, падымалася на крыльлях да сонца, з гімнам няўміраючай праўды:

**Ў роўнай сіле, ў роўнай праўдзе,**

133

**Між усіх народаў...**

Загрымелі воплескі. На ўсіх небеларускіх слухачоў, ніколі ня чуўшых беларускай песьні, хор зрабіў добрае ўражаньне. Прафэсары унівэрсытэту зашапталіся, сталі пахіляцца да прафэсара Ляцкага і аб нечым пытаць яго. Хор пачаў новую песьню, народную: “У гародзе рута-мята“. Вельмі прыгожа і міла тэнары пачалі:

**У гародзе рута-мята засаджоная.**
**Маладая дзяўчынанька, заручоная...**

Ураз усе весела й бадзёра падхапілі:

**Часалася, умывалася,**
**На рынак пайшла...**

Спачатку было сьмешна. Тугоўскі пераглянуўся з Вярхоўскай, усьміхаючыся, калі тэнары пачалі зноў:

**Як сустрэла дзяўчыначка**
**Ды трох малайцоў...**

І зноў усім хорам, асабліва падтрыманыя добрымі басамі, падхапілі:

**Адзін вядзе за ручаньку,**
**Другі за рукаў.**
**Трэці стаіць, сэрца баліць:**
**— Любіў ды ня ўзяў!**

Але далей усё больш і больш папоўз у сэрца Тугоўскага, як шэры туман, няўцішны сум. Яму пачало здавацца, што гэта сьпяваюць якраз пра яго. Ён напружана прыслухоўваўся да слоў песьні:

**Карміў, паіў дзяўчыначньку,**
**Чаіў за сябе,**
**Засталася дзяўчынанька**
**Людзям, ды ня мне...**

І зусім сумна, так, што нават у яго накруціліся на вачох слёзы — толькі добра, што ў залі было цёмна і ўсе глядзелі на сцэну, — ён прыняў апошнія

134

словы песьні:

**Шкада, шкада маіх ручак,**
**Што я абымаў.**
**Шкада, шкада маіх губак,**
**Што я цалаваў...**

А басы яшчэ больш прабівалі сэрца, падхопліваючы далікатныя гукі тэнараў:

**Ой, шкада, шкада...**

Запраўды, Тугоўскаму было шкада, шкада таго, што яго каханьне заставалася яшчэ не пачутае, не зразумелае, не разгаданае. Нарэшце, хор скончыў. Воплескам не было канца. Вярхоўская пляскала ў далоні і, сьмяючыся, казала Тугоўскаму:

— Крычыце “біс“.

— Не, — адказываў Тугоўскі, — зьмест песьні вельмі закранае мяне асабіста, не хачу больш яе. Інакш вы прымушаеце мяне плакаць.

— Праўда? Я б хацела гэта пабачыць, — засьмяялася яна зноў.

У гэты момант яе вочы на кімсьці спыніліся ў залі, і яна раптам замоўкла і стала сур'ёзнай. Тугоўскі з трывогай паглядзеў у той бок, куды глядзела яна, і заўважыў Загорскага. Ён быў прыгожы й бліскучы ў гэты момант. Ядвабныя лацканы смокінгу блішчэлі пры сьвеце электрычных лямп, як стужкі якога-небудзь дыплёмата, працягнутыя праз грудзі. Ён сам азіраўся па ўсей залі, шукаючы кагосьці й робячы выгляд, што яму на гэтым беларускім вечары вельмі сумна. Па яго

135

блукаючых поглядах было відна: ён напэўне не заўважыў Вярхоўскую.

А ў гэты момант Тамашэвіч думаў зьдзівіць Прагу, ён чытаў толькі беларускія казкі. Тугоўскі мала слухаў яго чытаньне. Ён толькі ўглядаўся ў сядзеўшую Вярхоўскую і дзівіўся таму, што яна стала сур'ёзнай й маўклівай. Відацца, і яе мала цікавіла чытаньне Тамашэвіча. Яе думкі лёталі, як птушкі, далёка ад гэтай залі, ад гэтых казак, дзесьці ў мінулым. Але яна сьмяялася разам з усімі ў тых мейсцах, дзе чытаючы сьмяяўся сам. “Хутчэй бы скончыў, — падумаў, гледзячы на яго незадаволены Тугоўскі. — Запраўды — “беларуская балалайка“, — успомніў ён словы “айца“ Кірылы. Тамашэвіч нарэшце скончыў. Вярхоўская вітала яго воплескамі, але відалася, што яна была зусім абыякавай да выступу Тамашэвіча. Зараз жа быў абвешчаны перарыў на паўгадзіну. Публіка, быццам толькі гэтага чакаючы, хлынула ў дзьверы. Бліскучыя дамскія туалеты і вайсковыя мундыры зьліліся з простымі студэнцкімі касьцюмамі. Пары рабілі туры па прыгожай невялікай залі з калёнамі. Тугоўскі йшоў у пару з Вярхоўскай. У гэты вечар ён ня мог скардзіцца на свой лёс. Ён быў нават шчасьлівейшы за шмат студэнтаў, стаяўшых па кутах і толькі паглядаўшых на гуляўшых шчасьліўцаў. Ён нават прайшоў некалькі тураў, як раптам здарылася нешта зусім неспадзяванае. Прарываючы таўпу, пасьпешна, хутка, як разразаючы ваду, нёсься да іх праз залю бліскучы, прыгожы, чуўшы сябе на вечарах, як рыба ў вадзе, Загорскі. Ён падышоў да іх неяк бокам і, ня гледзючы на Тугоўскага, не прывітаўшыся з ім, быццам там было пустое мейсца, паглядзеў з усьмешкаю на Вярхоўскую і сказаў:

136

— Выбачайце, Гелена Уладзіміраўна...

Па яе твару Тугоўскі заўважыў, што яна адклікнулася з радасьцей.

— Выбачайце, — прамовіла яна й пайшла з Загорскім рабіць колы па залі. Тугоўскі адышоў да аднэй з калён, адразу губляючы ўсю сваю прысутнасьць духу, якая ўжо была ў ім зьявіўшыся, калі ён гуляў па залі з Вярхоўскай. Яму зноў здалося, што рукі ў яго доўгія, ногі крывыя і ён сам зараз вельмі сьмешны ў гэтай залі з калёнамі. Яму здавалася, што ўсе глядзяць на яго, сьмяюцца. Ён аканчальна зьмяшаўся. Ногі яго сталі быццам сьвінцовымі й прырасьлі да падлогі, рукі прыліплі да калёны: ён стаяў, упіўшыся паглядам у гуляўшага Загорскага. Хвіліны здаваліся доўгімі, як вечнасьць. І думалася, што непрыемнае становішча скончыцца: яшчэ хвіліна, другая, і Вярхоўская зноў прыдзе да яго. Праходзілі хвіліны, а Вярхоўская зноў усё гуляла па залі з Загорскім; здавалася, Загорскі дэманстратыўна й насьмешліва праходзіў блізка да калёны, каля якой сумна стаяў Тугоўскі. Ён аб нечым рухліва апавядаў, аб нечым сьмяяўся, йдучы ў нагу й дэлікатна падпіраючы локаць яе левай рукі. Вярхоўская, здавалася, была рада. Яна часта сьмяялася й кідала толькі на Загорскага зьдзіўленыя погляды. Здавалася, яна таксама не бачыла Тугоўскага.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 38.**

[1] Чэшскі Універсітэцкі Камітэт (ЧУК).

[2] Яўген Аляксандравіч Ляцкі, родам з-пад Барысава. Куратар беларускага студэнцкага зямляцтва.

[3] У тэксце Я. Купалы: Зацьвіце яна (Бацькаўшчына), як сонца...

## ВЫДАННІ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"

Барыс САЧАНКА

БЕЛАРУСКАЯ ЭМІГРАЦЫЯ



На нядаўнім кангрэсе беларусістаў, што праходзіў у Мінску, выступаючы па праблемах беларускай дыяспары ў свеце, пісьменнік Барыс Сачанка сціпла заявіў, што летась выйшла з друку яго дылетанцкая (падкр. мною. — В. К.) кніжка пра нашу эміграцыю і што даследаванне гэтай тэмы павінна мець прафесійную аснову — за яе ўсур'ёз маюць абавязак узяцца вучоныя. Не пярэчачы сцвярджэнню наконт навуковага падыходу, асмелюся ўсё ж не пагадзіцца: сёння, бадай, адзін Сачанка сур'ёзна, глыбока і ў пэўнай меры прафесійна займаецца вывучэннем беларускай эміграцыі. Да леташняй кніжкі дадасцца новая, якая вось-вось прыйдзе да зарубежнага чытача "Голасу Радзімы".

"Беларуская эміграцыя" Барыса Сачанкі, якая выходзіць у нашай бібліятэчцы, — гэта другое, дапоўненае і папраўленае выданне. Яно мае шэраг істотных удакладненняў, што зноў жа сведчыць аб грунтоўнасці і прынцыповасці пазіцый аўтара.

Вядома, калі браць пад увагу толькі назву кнігі, то нехта можа запярэчыць, і слушна, што аўтар знаёміць нас не з усёй эміграцыяй, а колькасна з самай, можа, найменшай яе часткай — інтэлектуальнай дыяспарай. І тут словы Барыса Сачанкі аб патрэбе навуковага даследавання ўсёй нашай эміграцыі як нельга лепш да месца. Але, на маю думку, Б. Сачанка паклаў першую цагліну ў падмурак гэтай фундаментальнай для нас тэмы. Хай у яго сляды ідуць іншыя і адкрываюць нашаму народу пакуль што невядомыя старонкі яго гісторыі, бо нашы суайчыннікі за межамі Бацькаўшчыны — гэта частка нашага народа і нашай гісторыі.

Тое ж, што адкрыў нам Б. Сачанка, па меншай меры здзіўляе і цешыць: наш атлумлены савецкай прапагандай чытач даведваецца, што там, у Канадзе ці Амерыцы, у Еўропе, Аўстраліі, таксама жывуць такія ж беларусы, як і мы, і іншыя народы аддаюць ім належнае за працавітасць і рахманы характар, за талент і залатыя рукі. У нас жа іх лічылі адно здраднікамі ды злачынцамі. Сярод беларускай эміграцыі ёсць паэты і празаікі, якія пішуць на нашай мове, кампазітары і спевакі, у творах і выкананні якіх так многа нашага — беларускага, ёсць у замежжы вучоныя з беларусаў, дзелавыя людзі, адных мастакоў налічваецца, бадай, каля двух дзесяткаў.

Усё, што створана гэтымі людзьмі, нашымі далёкімі суайчыннікамі, увесь гэты культурны пласт, з'яўляецца таксама і часткай агульнанацыянальнай беларускай культуры. Многія могуць не пагадзіцца з такім катэгарычным сцвярджэннем, бо, зыходзячы з нядобрай памяці класавых пазіцый (а можа і эстэтычных крытэрыяў), не для ўсіх усё абсалютна прымальнае. Гэта так, і тым не менш яна, эмігранцкая спадчына, наша, цалкам, уся, белая і чырвоная, хрысціянская і атэісцкая, "кулацкая" і "пралетарская". Мы не можам адкінуць таго, што было з намі, падабасцца гэта каму ці не.

Не здзіўлюся, калі некаму і на Беларусі, і за межамі яе не зусім адпавядае падыход аўтара да тэмы, яго прынцыповае стаўленне да эміграцыі, уласнае бачанне і ацэнка яе. Напэўна, на гэта наклалі адбітак час, у які жыве кожны з нас, і грамадства, якое нас акаляе. Але лічу, што кожны мае права на сваю пазіцыю. Хай нехта іншы скажа сваё слова пра эміграцыю, толькі сумленна, так, як гэта робіць Барыс Сачанка. І тады мы можа ўбачым тое ж самае ў іншым святле, у іншым вымярэнні.

А пакуль што мы маем кніжку Б. Сачанкі "Беларуская эміграцыя". Нягледзячы на эмацыянальнасць, уласцівую стылю аўтара, яна для мяне як маленькая энцыклапедыя: столькі ў ёй інфармацыі, прозвішчаў, фактаў. Спадзяюся, што яна стане такой жа энцыклапедыяй і для кожнага чытача.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

*ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ*

# ВЫЗВАЛЕННЕ ЦІ ВАЙНА?

## 1939 ГОД У НАШАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ

II

Так званы вызвольны паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну ў сапраўднасці быў нармальнай польска-савецкай вайной з удзелам вялікіх воінскіх кантынгентаў з абодвух бакоў. Паводле савецкіх афіцыйных даных, толькі страты Чырвонай Арміі ў ходзе канфлікту дасягнулі амаль адной тысячы забітых савецкіх афіцэраў і салдат. Кароль Лішэўскі, канадскі гісторык, аўтар сур'ёзнай навуковай працы пад назваю "Савецка-польская вайна 1939 года", сцвярджае, што даныя гэтыя заніжаны амаль што ўтрая. Так што паход на Захад пад гучны акампанемент савецкай прапагандысцкай машыны не быў для Чырвонай Арміі лёгкай прагулкай. Гэта была вайна, вайна на беларускай тэрыторыі, на жывым целе беларускага народа, вайна, якая прынесла беларусам незлічоныя ахвяры.

Што датычыцца страт польскай арміі, дык аб іх вельмі цяжка гаварыць, таму што ў саміх баявых дзеяннях польскае войска страціла няшмат, але пазней, калі Сталін з Берыяй запусцілі на поўную моц сваю страшэнную машыну тэрору, палякі змаглі ўвачавідкі пераканацца, што такое сталінізм, якое жудаснае гора ён нясе народам. Толькі ў Катыні і іншых лагерах смерці загінула больш 15 тысяч польскіх афіцэраў, каля мільёна палякаў было пераселена ў адлеглыя раёны Савецкага Саюза. Палова з іх дамоў ужо ніколі не вярнулася.

Чарговы міф савецкай прапаганды, які проста неабходна абвергнуць, — гэта сцвярджэнне, што "аб'яднанне беларускага народа ў адзінай сацыялістычнай дзяржаве адначасна знаменавала перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі ў заходніх раёнах БССР". Кансерватыўныя савецкія гісторыкі сцвярджаюць, што Чырвоная Армія рэалізавала гістарычную справядлівасць і яе дзеянні адпавядалі нацыянальным імкненням беларускага народа. Гэта вельмі сур'ёзная аргументацыя, і пацвердзіць альбо абвергнуць яе можна толькі з дапамогай рэальных фактаў.

Ваенныя дзеянні паміж Чырвонай Арміяй і рэгулярнымі часцямі польскага войска на тэрыторыі Заходняй Беларусі адбываліся на працягу 9 дзён: ад 17 да 25 верасня 1939 года. Найбольш цяжкія баі былі ў раёне Ашмян і пад Гародняй, але самыя вялікія страты Чырвоная Армія панесла на Палессі, у раёне Кобрына і Пінска, дзе вайсковая польская група ў складзе некалькіх дывізій і маракі Пінскай флатыліі пад камандаваннем генерала Клеберга вырашылі не ісці ў палон да камуністаў, а прабівацца на дапамогу польскай сталіцы Варшаве. Варшава, як вядома, змагалася да 29 верасня і паддалася нямецкім войскам толькі тады, калі былі вычарпаны ўсе магчымасці абароны.

Паводле сцвярджэнняў савецкай прапаганды, наступленне Чырвонай Арміі было актыўна падтрымана амаль усеагульным узброеным паўстаннем беларускага насельніцтва. Ці так было ў сапраўднасці?

Гісторыя тых дзён суха пацвярджае: было зарэгістравана некалькі ўзброеных выступленняў у падтрымку Чырвонай Арміі. Найбольш вядомым з іх з'яўляецца "Скідэльскае паўстанне", гісторыя якога апісана нават у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Скідэльскім актывістам былой КПЗБ, а таксама мясцовым уцекачам з польскага войска ўдалося захапіць Скідэль да падыходу Чырвонай Арміі і абвясціць тут Савецкую ўладу. Усё, мабыць, абышлося б спакойна, і ў БелСЭ не з'явілася б артыкула пад назвай "Скідэльскае паўстанне", але, на бяду, у Скідэль увайшоў полк рэгулярнага польскага войска, што адступаў з-пад Вільні на Гародню. Ён і разагнаў мясцовых камуністаў. Было трохі страляніны. Загінула 5—6 чалавек. Такім вось было ў сапраўднасці гэта легендарнае паўстанне.

Дзеля падтрымкі легенды аб адвечнай цязе заходніх беларусаў да "айчыны сусветнага пралетарыяту" (як называў СССР савецкі друк тых гадоў) савецкая прапагандысцкая літаратура падае прыклады і іншых узброеных выступленняў. У баях за Гародню разам з Чырвонай Арміяй браў удзел беларускі партызанскі атрад пад кіраўніцтвам токара Язэпа Індушко. Што гэта быў за атрад, які быў ягоны склад? Аб гэтым у беларускай савецкай гістарыяграфіі вестак няма. У раёне мястэчка Зэльва змагаўся атрад беларускіх сялян пад кіраўніцтвам Аляксея Мазіка. На Палессі ў ваколіцах Іванава ўзброеныя атрады беларускіх сялян яшчэ да падыходу Чырвонай Арміі ўзялі пад свой кантроль чыгунку паміж Пінскам і Брэстам. Былі і іншыя ўзброеныя выступленні беларусаў у падтрымку наступлення Чырвонай Арміі. Аднак прыход савецкіх войск на былую польскую тэрыторыю не выклікаў ды і не мог выклікаць масавага ўсенароднага паўстання. Затое даволі частай з'явай было энтузіястычнае прывітанне Чырвонай Арміі, выстаўленне трыумфальных брам і да т. п. Трэба станоўча сцвердзіць, што факты гэтыя не з'яўляюцца вымыслам савецкай прапаганды. Яны сапраўды мелі месца. Але ў чым заключалася сутнасць гэтага спрэчнага з'явішча? У чым прычына падобных адносін пэўнай часткі беларусаў?

Аб'ектыўны аналіз з больш як 50-гадовай перспектывы даводзіць, што тут узаемадзейнічала некалькі фактараў.

Па-першае, Савецкая ўлада, у сваёй істоце плебейская і прымітыўная, успрымалася як "свая", "блізкая" ў асяроддзі найбяднейшых слаёў заходнебеларускага грамадства. Менавіта сярод іх найбольшы ўплыў мела савецкая камуністычная прапаганда, якая ў гэты перыяд пераўтварылася ў нейкі нябачаны дагэтуль у гісторыі феномен татальнай беспардоннай дэмагогіі. Нават роспуск КПЗБ і пераслед агентамі НКУС былых дзеячаў гэтай камінтэрнаўскай партыі на польскай тэрыторыі падаваліся савецкай прапагандай у якасці "святой барацьбы за чысціню камуністычных радоў". Трэба дадаць, што ў момант прыходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь тут знаходзілася звыш 7 тысяч былых членаў КПЗБ. Большасць з іх, нягледзячы на рэпрэсіі НКУС, якраз засталіся вернымі камуністычным ідэалам. Былі яны галоўнымі носьбітамі ілюзіі "аб'яднанай сацыялістычнай Беларусі", якая пад кіраўніцтвам мудрага Сталіна зойме сваё "пачэснае месца сярод савецкіх народаў". Польская адміністрацыя заўсёды заставалася для іх галоўным ворагам, а сталінскія рэпрэсіі яны ўспрымалі як нейкую "дамовую сварку" паміж камуністамі, без якой не абыходзіцца ні адна сям'я. Гэтыя тысячы былых КПЗБоўцаў і былі якраз галоўнымі ініцыятарамі ўрачыстага віншавання Чырвонай Арміі на заходнебеларускіх землях.

Па-другое, вялікі ўплыў на спачатку вельмі прыхільныя адносіны часткі беларускага насельніцтва да новых савецкіх улад мела выразна антыбеларуская палітыка санацыйнай Польшчы. Палякі беспардонна праводзілі курс на паступовую дэнацыяналізацыю беларусаў і пераслед усяго беларускага. Здавалася, што пасля гэткай страшнай ночы для беларускасці нічога горшага ўжо быць не можа, што кожная ўлада будзе лепшая за тую выразна антыбеларускую, польскую. Але, як выявілася вельмі хутка, не толькі можа, але ёсць у наяўнасці.

Па-трэцяе, пачуццё ўсеагульнага страху, выкліканага страшным сталінскім тэрорам ва Усходняй Беларусі (як і па ўсёй тэрыторыі СССР), перайшло і праз бліжэйшую граніцу Савецкага Саюза. Весткі аб масавых рэпрэсіях у адносінах не толькі да сапраўдных праціўнікаў савецкага рэжыму, але і да патэнцыяльных, акрамя натуральнага страху, выклікалі даволі дзіўную, але зразумелую рэакцыю. Палягала яна на дэкларацыі лаяльнасці ў адносінах да новых улад і нават на штучным энтузіязме з нагоды прыходу Чырвонай Арміі. У чым тут справа?

Частка беларусаў, а перадусім дзеячаў беларускага нацыянальнага руху, такім дзіўным спосабам намагалася абараніць сябе перад магчымымі рэпрэсіямі. Менавіта страх перад новай уладаю і надзея на ўратаванне такім спосабам абумовілі ўдзел шэрагу выдатных беларускіх дзеячаў на чале з самім Антонам Луцкевічам ва ўрачыстым мітынгу прывітання Чырвонай Арміі на Лукішскай плошчы ў Вільні. Але, як вядома, гэта не ўратавала іх ад рэпрэсій. Улады арыштавалі большасць выдатных віленскіх беларускіх дзеячаў і пазней розным спосабам знішчылі іх.

Некаторыя беларускія дзеячы былі пераканаexiste, што ўлады будуць патрабаваць мясцовых людзей для наладжвання адміністрацыйнага апарату на далучаных землях, што камуністам будуць патрэбны людзі, якія добра ведаюць мясцовыя варункі. Падобнае (зрэшты, лжывае) перакананне таксама абумовіла лаяльныя адносіны беларусаў да Савецкай улады. Ізноў гэта была толькі ілюзія: камуністы не мелі ніякага намеру дзяліцца ўладаю, а мясцовых беларусаў патрабавалі толькі дзеля таго, каб разыграць камедыю (дакладней, трагікамедыю) энтузіястычнага прывітання агрэсараў на беларускіх землях. Новыя ўлады даволі хутка прыступілі да ажыццяўлення сваіх традыцыйных метадаў уздзеяння на насельніцтва захопленых тэрыторый.

Замест свабоднай праўдзівай інфармацыі яны шырока карысталіся індактрынацыяй. Іншымі словамі, яны намагаліся сілай укараніць у свядомасці людзей адпаведныя ідэалагічныя стэрэатыпы. Галоўным жа метадам дасягнення палітычных мэтаў стаў сляпы тэрор. Заходнія беларусы, як і іх браты ва Усходняй Беларусі, пераўтварыліся ў паслухмяных статыстаў будаўніцтва сталінскай таталітарнай сістэмы.

Наіўнасць некаторых беларускіх дзеячаў, і перш за ўсё Антона Луцкевіча, заключалася ў тым, што яны спадзяваліся на нейкае раўнапраўнае супрацоўніцтва з савецкай адміністрацыяй. Лаяльнасць, на іх думку, павінна была стаць гарантыяй іх бяспекі. Супрацоўніцтвам яны спадзяваліся атрымаць ад улад выбачэнне за сваю ранейшую незалежніцкую дзейнасць. А ці магчыма ўмова з д'яблам? Ці можна хоць на хвіліну верыць абяцанням камуністаў? Адказ на гэтыя пытанні наіўныя беларускія дзеячы атрымалі вельмі хутка. Адказам сталі рэпрэсіі, рэпрэсіі і яшчэ раз рэпрэсіі...

Такім чынам, 1939 год не быў, ды і не мог быць здзяйсненнем векавых мар беларускага народа аб аб'яднанні ў адзінай нацыянальнай дзяржаве. І хаця аб'ектыўна аб'яднанне і адпавядала нацыянальным інтарэсам беларусаў, характар яго ажыццяўлення і пазнейшыя шырокамаштабныя антыбеларускія рэпрэсіі азначалі ў сапраўднасці змену аднаго акупацыйнага рэжыму на другі, больш жорсткі і бязлітасны.

**Мікола ІВАНОЎ.**

# ЯК СПЫТАЮЦЦА НАС...

У выніку паступовай асіміляцыі гэтыя назвы паселішчаў і прозвішчы сталі састаўной часткай беларускай тапанімікі і антрапаніміі. Пад уплывам польскага насельніцтва ў комплексе прадметаў беларускага адзення з'явіўся андарак, які першапачаткова ў беларусаў называўся так, як і ў палякаў — "індэрак". Пад польскім уплывам стаў трансфармавацца каўнер сарочкі: замест стаячага ён стаў адкладным. Разам з усходнеславянскай назвай — "сарочка" стала ўжывацца і яе польскае найменне — "кашуля". Ад палякаў быў успрыняты і новы каляндар. Замест ранейшага летазлічэння ад стварэння свету сталі карыстацца летазлічэннем па новай эры, пачаткам якой, згодна хрысціянскай міфалогіі, лічыцца год нараджэння Хрыста. У асноўным з Польшчы ў Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, у тым ліку і ў заходнія раёны ўсходнеславянскіх земляў, пранікаў каталіцызм. Польскае насельніцтва зрабіла ўплыў і на мову беларусаў. У беларускай мове пашыраліся некаторыя польскія словы — абавязак, моц, будаваць, менавіта і інш.

Акрамя заходнеславянскага (польскага) насельніцтва ў фарміраванні беларускага этнасу прынялі ўдзел і неславянскія групы, асабліва балцкія. Апошніх на захадзе іх этнічнай тэрыторыі цяснілі крыжакі. Таму частка балтаў у XIII—XV стагоддзях, асабліва ў XIII—XIV, перамясцілася ў цэнтральны, папрыпяцкі і часткова ў падзвінска-дняпроўскі рэгіёны. Пераважна ў цэнтральны рэгіён і часткова ў падзвінска-дняпроўскі і папрыпяцкі перасялілася частка прусаў. Аб гэтым сведчаць не толькі пісьмовыя крыніцы, але і назвы паселішчаў у цэнтральным рэгіёне — Прусінава (Уздзенскі край), Прусавічы (Лагойскі край), Прусаўшчына (Крупскі край), у падзвінска-дняпроўскім — Прусінічы (Талочынскі край), Прусіна (Касцюковіцкі край), у папрыпяцкім — Прусы (Капыльскі край), Пруска (Камянецкі край). Тэўтонскім ордэнам былі разгромлены яцвягі — другая частка заходніх балтаў. Іх невялікія групы заставаліся толькі ў цэнтральным рэгіёне. Аб гэтым сведчаць назвы паселішчаў Яцвязь, Яцвяск (Гродзенскі край), Дайнова (Лідскі, Ашмянскі, Мінскі край). Набегі крыжакоў на жэмайтаў — трэцюю частку заходніх балтаў — былі прычынай перасялення невялікіх груп гэтай супольнасці ў заходнюю частку ўсходнеславянскай тэрыторыі — заходнія раёны папрыпяцкага, цэнтральнага і падзвінска-дняпроўскага рэгіёнаў. Аб гэтым сведчаць назвы паселішчаў Жэмойцішкі (Воранаўскі край), Жэмойдзі (Лідскі край), Жэмойск (Докшыцкі край), Жэмойдзь (Мінскі, Клецкі край). У падзвінска-дняпроўскі рэгіён, магчыма, перасялілася і частка ўсходнебалцкага насельніцтва, менавіта латыголаў, на якіх наступаў Лівонскі ордэн. Латыгольскімі з'яўляюцца назвы паселішчаў Латыголь, Латыголічы, Латыголава і інш., размешчаных у Глыбоцкім, Бешанковіцкім, Чашніцкім і інш. краях. У заходнім арэале ўсходнеславянскай тэрыторыі ў XIII—XVI стагоддзях знаходзілася таксама яшчэ адна частка ўсходнебалцкага насельніцтва — літва. Яна размяшчалася ў асноўным у заходніх раёнах цэнтральнага і падзвінска-дняпроўскага рэгіёнаў. Аб гэтым сведчаць назвы паселішчаў Літва, Літоўцы, Літоўшчына. Назва Літва больш характэрная для цэнтральнага рэгіёна (Маладзечаншчына), Стаўбцоўшчына, Слонімшчына), а Літоўцы, Літоўшчына — для падзвінска-дняпроўскага (Браслаўскі, Глыбоцкі, Докшыцкі край). Балцкія групы цесна ўзаемадзейнічалі з усходнеславянскім насельніцтвам, сярод якога яны жылі, успрымаючы іх мову і культуру, з аднаго боку, а з другога, захоўваючы і перадаючы яму элементы сваіх моў і культур. У выніку асіміляцыі балцкіх груп назвы іх паселішчаў сталі састаўной часткай беларускай тапанімікі, а балцкія прозвішчы (Зыль — ад літ. Zilas — сівы, Лавейка — ад літ. Lova — ложак, Макушык — ад літ. takalas—лёгкадумны франт і інш.) узбагацілі беларускую антрапаніміку. Беларуская мова папоўнілася балцкімі словамі дойлід (будаўнік), клуня (гумно), свіран (клець) і інш.

Акрамя балтаў, на беларускі этнас зрабілі ўплыў і групы іншага неславянскага насельніцтва, у прыватнасці цюркскага, менавіта татараў. Асобныя групы татараў былі паселены ў канцы XIV — пачатку XV стагоддзяў у цэнтральным, а затым у папрыпяцкім і падзвінска-дняпроўскім рэгіёнах. Аб гэтым сведчаць назвы паселішчаў Татарская (Валожыншчына), Татаршчына (Маладзечаншчына). Татарка (Лідскі край), Т[illegible]ы (Браслаўшчына, Арша[illegible]ына), Татар'я (Піншчына). Пад татарскім уплывам у беларускай антрапаніміі з'явіліся прозвішчы Татарчук, Татарчык, Татаронак, Татарэнка і інш. [illegible]тарскай мовы ў беларуску[illegible]рапілі словы атаман, казак, армяк, ямшчык і інш. Некаторыя асіміляваныя групы татараў захавалі мусульманскую рэлігію. Асіміляваныя татары першапачаткова карысталіся арабскай графікай (пісьмом). Ёю напісаны беларускія тэксты — так званыя кітабы, якія датуюцца XVI—XVIII стагоддзямі.

Такім чынам, у фарміраванні беларускага этнасу прынялі ўдзел асобныя групы неславянскага і заходнеславянскага насельніцтва. Іх уплыў на беларускі этнас, беларускую мову і культуру быў прыкметным, але яго перабольшваць не трэба. Аснову беларускага этнасу склалі ўсходнеславянскія групы — старажытныя палешукі і старажытныя беларусцы.

### ПЕРАМЕНА ЭТНІЧНАГА ЗНАЧЭННЯ НАЗВЫ БЕЛАЯ РУСЬ

У выніку згуртавання дзвюх значных груп (папрыпяцкай і падзвінска-дняпроўскай) усходнеславянскага насельніцтва, з аднаго боку, і кансалідацыі іх з асобнымі групамі неўсходнеславянскага насельніцтва — заходнеславянскага (польскага), балцкага і цюркскага (татарскага), з другога, на шырокай тэрыторыі, размешчанай паміж Прыпяццю на поўдні і Заходняй Дзвіной на поўначы, Нёманам на захадзе і Дняпром з Сожам на ўсходзе к сярэдзіне XVI стагоддзя сфарміравалася новая мова і звязаны з ёю комплекс культуры. З гэтага часу новая культурная тэрыторыя атрымала і сваё найменне. Ім стала назва Белая Русь. Як вядома, тэрмін гэты ўзнік раней, яшчэ да фарміравання беларускага этнасу, менавіта ў агульнаўсходнеславянскую эпоху, не пазней XIII стагоддзя (магчыма, з канца і нават з сярэдзіны XII стагоддзя) і абазначаў тады адну з частак агульнаўсходнеславянскай этнічнай (культурнай) тэрыторыі, адзін з яе рэгіёнаў, які размяшчаўся ў яе паўночнай палавіне (прыкладна паміж вярхоўем Заходняй Дзвіны і вярхоўем Волгі, з аднаго боку, і вярхоўем Нёмана, з другога). Агульнаўсходнеславянскае насельніцтва гэтага рэгіёна тады мела шэраг асаблівасцей у мове і культуры ў параўнанні з паўднёвай палавіне ўсходнеславянскай этнічнай тэрыторыі. З другой паловы XVI стагоддзя значэнне тэрміна Белая Русь змяняецца. Ім паступова перасталі называць тэрыторыю Пскоўшчыны, Цвярскога краю, затым і Смаленшчыны. Усходнеславянскае насельніцтва гэтых земляў было ўключана ў склад Маскоўскай дзяржавы, у межах якой сфарміраваўся новы ўсходнеславянскі этнас — велікарускі. Уся этнічная тэрыторыя ўсходнеславянскага насельніцтва Маскоўскай дзяржавы (разам з Пскоўшчынай, Цвярскім краем, Смаленшчынай) не пазней сярэдзіны XVI стагоддзя стала называцца Расіяй. У гэтым значэнні тэрмін Расія ўжываецца як унутры Маскоўскай дзяржавы, так і за яе межамі, у прыватнасці ў Польскім каралеўстве. Сінонімам назвы Расія стаў тэрмін Вялікая Русь, які змяніў сваё ранейшае больш вузкае значэнне як часткі агульнаўсходнеславянскай тэрыторыі, размешчанай на поўнач ад Волгі. Ён стаў абазначаць усю этнічную (культурную) тэрыторыю велікарускага народа, які сфарміраваўся, як яе паўночную, так і цэнтральную, і паўднёвую часткі. Падобна найменню Вялікая Русь, якая стала назвай этнічнай тэрыторыі велікарускага народа, тэрмін Белая Русь стаў назвай другога ўсходнеславянскага народа — беларускага, этнічная тэрыторыя якога ўключала паўднёвую зону былога падзвінска-дняпроўскага рэгіёна, цэнтральны рэгіён і паўночную зону былога папрыпяцкага рэгіёна.

У XV — XVI стагоддзях і ў больш позні час паўднёвая зона падзвінска-дняпроўскага рэгіёна, змяніўшы этнічны (культурны) характар і стаўшы састаўной часткай новага ўсходнеславянскага народа (беларускага), трывала захавала сваё ранейшае найменне Белая Русь. У XVI стагоддзі (асабліва з сярэдзіны другой паловы XVI стагоддзя) тэрмінам Белая Русь паступова сталі называць таксама тэрыторыю цэнтральнага рэгіёна, у прыватнасці Міншчыну, Гродзеншчыну, а затым і паўночную зону былога папрыпяцкага рэгіёна, аж да Прыпяці. Пачаткам агульнабеларускага значэння тэрміна Белая Русь можна лічыць другую палову XVI стагоддзя, час Люблінскай уніі (1569 год). Як сцвярджае польскі даследчык Вітольд Манчак, новае значэнне тэрміна Белая Русь адлюстравана ў рашэннях Люблінскага сейма. Згодна пастанове сейма і выдадзенаму на яго аснове універсалу польскага караля Сігізмунда Аўгуста Падляссе і Валынь былі ўключаны ў склад Польскага каралеўства. Адной з матывіровак гэтага было сцвярджэнне, што гэтыя землі з'яўляюцца польскімі і не адносяцца да Белай Русі. Белая Русь, такім чынам, у той час пачыналася з палескіх балот і распасціралася далей на поўнач ад іх, на поўнач ад Прыпяці. Новае значэнне тэрміна Белая Русь адлюстравана ў казацкім фальклоры. У казацкіх песнях Белай Руссю называецца і Рэчыцкі край. У адной з песень, запісаных тут, у прыватнасці, гаворыцца:

> **Шумелі бярозы на гром ці на вецер,**
> **Ой, шумелі бярозы.**
> **Паехалі хлопцы на дзень ці на тыдзень**
> **Ад Белае Русі.**

Аб новым значэнні тэрміна Белая Русь піша і польскі географ Сіман Старавольскі ў сваёй працы "Польшча, або Апісанне каралеўства Польскага", надрукаванай у 1632 годзе. Ён называе землі, размешчаныя ў басейне рэчак Стыр і Прыпяць, Белай Руссю. Такое ж сведчанне ёсць і ў Аляксандра Цэларыя ў яго творы "Апісанне царства Польскага", напісаным таксама ў першай палове XVII стагоддзя. На новае значэнне тэрміна Белая Русь указваецца і ў Густынскім летапісе, які датуецца XVII стагоддзем. У ім паведамляецца, што Белая Русь размяшчаецца паміж Масквой (маецца на ўвазе не горад, а дзяржава. — **М. П.**) і Валынню. Услед за пераменай значэння назвы Белая Русь змяняецца і значэнне вытворнага ад яе тэрміна беларусцы (беларусец, беларуска). Калі раней, у XIII—XIV стагоддзях, ён абазначаў тых, хто адносіўся да аднаго з субэтнасаў (частка этнасу) агульнаўсходнеславянскай супольнасці, той яе часткі, што размяшчалася ў падзвін[illegible]дняпроўскім рэгіёне і су[illegible]іх з ім паўночных і паўднёвых раёнах, то з XV—XVI стагоддзяў, асабліва з другой паловы XVI і пачатку XVII стагоддзяў, тэрмін беларусцы (беларусец, беларуска) стаў [illegible]начаць тых, хто адносіўся [illegible] да новага ўсходнеславянскага этнасу — беларускага. У велікарускіх пісьмовых крыніцах першай трэці XVII стагоддзя ёсць шмат сведчанняў, што беларусцамі ў той час называлі не толькі жыхароў Полаччыны, Віцебшчыны, Аршаншчыны, Мсціслаўшчыны, але гэтым тэрмінам пачалі таксама называць і ўсходнеславянскіх жыхароў цэнтральнага рэгіёна — Ашмяншчыны (1627), Лідскага краю (1636), а затым і Случчыны (1639), размешчанай у паўночнай зоне папрыпяцкага рэгіёна, якая стала неад'емнай састаўной часткай этнічнай тэрыторыі беларускага этнасу (народа), які сфарміраваўся. Побач з формай "беларусцы" ў велікарускіх пісьмовых крыніцах сярэдзіны XVII стагоддзя (канец 1649 — пачатак 1650 гадоў) ужо сустракаецца і сучасная форма назвы беларускага этнасу — беларусы. Гэтым тэрмінам адрозніваці жыхароў нашага краю ад палякаў, чаркасаў (чаркасамі ў той час у велікарускіх пісьмовых крыніцах называлі украінцаў), літоўцаў, якіх іншы раз называлі літоўскімі людзьмі.

Такім чынам, к канцу XVI — пачатку XVII стагоддзяў не толькі сфарміравалася беларуская мова і звязаны з ёй комплекс традыцыйнай культуры, але і з'явілася агульная назва новай этнічнай (культурнай) тэрыторыі — Белая Русь і агульная назва ўсяго народа — беларусы. Так утварылася Беларусь і беларусы.

**Міхась ПІЛІПЕНКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 35 — 38.**

# «ЧАС НАЗАД НЕ ПАВЯРНУЦЬ»

**Балетная трупа беларускага опернага тэатра, якая атрымала ў апошнія гады сусветнае прызнанне, накіравалася ў гастрольнае турнэ Ганконг — Тайланд. У дні падрыхтоўкі да ад'езду галоўны балетмайстар тэатра, народны артыст СССР Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ даў інтэрв'ю.**

— *Валянцін Мікалаевіч, як вядома, дні трагічных жнівеньскіх падзей засталі вас у паездцы, звязанай з будучымі гастролямі. Гэта ўнесла свае карэктывы ў ход дзелавых перагавораў, вашых думак?*

— Мае думкі ў той момант у нейкай меры адлюстраваны ў інтэрв'ю ганконгскай газеце "Саус Чайна Морнінг Пост", якое апублікавана 20 жніўня. "Адзін з найбольш вядомых савецкіх харэографаў Валянцін Елізар'еў сказаў, што ён быў шакіраваны і ўсхваляваны палітычнымі зменамі, якія ўскалыхнулі ўсю краіну, пасля яго прыбыцця ў Ганконг учора раніцай", — піша газета і далей прыводзіць яго словы: "Кола перабудовы круціцца ў адным кірунку вось ужо шэсць гадоў, і яго немагчыма ні спыніць, ні павярнуць назад". "Ніякія абставіны, палітычныя ці іншыя, не могуць перашкодзіць беларускай трупе прыехаць у верасні са спектаклямі "Шчаўкунок" і "Рамео і Джульета". "Мы заслужылі прызнанне не дзякуючы прыхільнасці партыі, а дзякуючы нашаму служэнню мастацтву".

— *Валянцін Мікалаевіч, якая роля спонсараў у вашых зарубежных гастролях?*

— Без іх ніводная з нашых паездак не адбылася б. Замежныя прадпрымальнікі аплачваюць усё, пачынаючы ад перавозкі касцюмаў і дэкарацый. Дзесяць тысяч долараў штодзённа за кожны наш спектакль мы пералічваем у бюджэт тэатра.

— *Што іх, на ваш погляд, прымушае да гэтага?*

— Не толькі любоў да мастацтва, але і перспектыва выгаднага супрацоўніцтва. Сярод нашых спонсараў і арганізатараў прадпрымальнікі многіх фірм. З імі мы і ў далейшым будзем весці перагаворы.

— *Контуры іх ужо вырысоўваюцца?*

— У снежні адбудуцца гастролі беларускага балета ў штаце Каліфорнія ў ЗША. У лютым турнэ — па пяці краінах у рэгіёне Карыбскага мора — Гаяна, Гвадэлупа, Трынідад і Табага, Барбадас, Ямайка. Акрамя гэтага, адказная работа нас чакае і дома: мінчанам мы плануем паказаць дзве прэм'еры ў бягучым сезоне — балетны спектакль класічнай спадчыны "Карсар" Адана і "Рагнеду" сучаснага беларускага кампазітара Мдзівані.

— *Каго ў галоўных партыях убачаць зарубежныя гледачы?*

— У Ганконг мы ляцім 15 верасня. У складзе трупы вядучыя саністы Інеса Душкевіч, Кацярына Фурман, Таццяна Яршова, Таццяна Шаметавец, Натэла Дадзішкіліяні, Уладзімір Іваноў, Уладзімір Камкоў, Веніямін Захараў, Юзэф Раукуць. Але поспех гастроляў забяспечвае кожны ўдзельнік паездкі.

Мы жывём у новым вымярэнні. З рахунку нельга скінуць не толькі наш творчы вопыт, але і гуманістычную практыку зносін са светам цывілізацыі. Такі наказ часу, які назад не павярнуць.



# ДУША АДКРЫЛАСЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Думаю, збіраецца, бо нядаўна ўзяў нямецкае падданства, а да гэтага часу не меў ніякага.

— Ці спадабаліся вам бацькавы родныя мясціны?

— Ну, вядома, бо я заўсёды лічыў, што яны і мне не чужыя. Зблізкыні было цікава паглядзець на тое, пра што столькі чуў.

— У вас, мусіць, з'явіліся ў Мінску знаёмыя? Ці збіраецеся зноў прыехаць?

— Знайшлося ў мяне многа сяброў. Асабліва сярод мастакоў. Найперш пазнаёміўся з рэалістамі. Сам калісьці вучыўся на рэаліста. Бацька — мастак-рэаліст. І зараз малюе. Добра атрымліваюцца ў яго партрэты, пейзажы. Беларусь я ўпершыню пабачыў на яго карцінах. Тут з рэалістаў мне спадабаўся Міхась Карпук. Ён мне адкрыў пейзаж Беларусі. З мастакоў, блізкіх да мадэрна, я пазнаёміўся з Ігарам Кашкурэвічам. Ён мне вельмі спадабаўся. Спадабаўся і Славук са сваімі фантастычнымі афортамі.

— У Кнізе водгукаў на вашай выставе адзін з наведвальнікаў напісаў, што вы нам "адкрылі акно ў Еўропу", маючы, мусіць, на ўвазе, што наша мастацтва безнадзейна адстала. Што вы можаце сказаць пра нас?

— Я думаю, што такое меркаванне няправільнае. Авангард менавіта тут бярэ свой пачатак ад Малевіча, ад Шагала. А наконт таго, што я паказаў нешта малавядомае, дык я паказаў перш за ўсё індывідуальнае бачанне мастака, тое, што ён нясе ў сваёй галаве. Я імкнуся абудзіць пачуцці, а не даць людзям інфармацыю сацыяльнага плана. Сваю дарогу, свой метад у мастацтве я назваў псіханаўтыкай. Гэта маляванне з поглядам у сябе. Свет сну, галюцынацый, міфы, казкі... Яны як навігацыя ў падсвядомасці, як інструменты, сродкі вызвалення розуму. Так было да сярэдзіны 80-х гадоў, пакуль я не адчуў поўную свабоду ўяўлення, што не прызнае ніякіх абмежаванняў. Самае галоўнае — мае пачуцці. Іду праз лес і адчуваю, як сонца свеціць, як мне цёпла, як птушкі спяваюць. Імкнуся спыніць гэтае імгненне, каб яно засталося назаўсёды.

— Здаецца, вы прыехалі ў Беларусь пасля 19 жніўня?..

— Так, менавіта ў гэты дзень я браў білет, каб ляцець у Мінск.

— І не перадумалі, не змянілі свайго намеру?

— Білет быў, і я не стаў нічога мяняць. І не шкадую, што так зрабіў. Дзякуй Бо... народ паказаў, што ён ... хоча, каб нехта прыходзіў і дыктаваў яму сваю волю. У Нямеччыне немцы стаяць за Гарбачова, бо ён для іх сімвал адкрыцця граніцы пам... былой Заходняй і Усход... Германіяй, ён сімвал канца "халоднай вайны". Немцы спачуваюць вашаму цяжкаму эканамічнаму становішчу. Думаю, што яны паставяць вам эфектыўную дапамогу. Я бачу, як вам цяжка, мяне засмучаюць нятоўпы, доўгія чэргі перад магазінамі. Гэта так зневажае чалавечую годнасць.

— І яшчэ невядома, ці будзе Беларусь сапраўды вольнай і незалежнай...

— Дасць Бог, будзе, павінна быць. Між іншым, нармальнае нямецкае знанне пра Беларусь вельмі цьмянае. Толькі цяпер яны ўбачылі, што ёсць асобныя саюзныя рэспублікі, а не адзін маналіт — Савецкі Саюз. Спачатку пачулі пра Літву, Латвію, Эстонію, потым пра паўднёвыя рэспублікі. Перад ад'ездам, чую, і пра Беларусь загаварылі. Толькі не трэба перакладаць назву Беларусь, а то Белая Русь асацыіруецца с белагвардзейскай Расіяй.

— З якім пачуццём вы ад нас ад'язджаеце?

— Душа адкрылася. Адкрылася насустрач людзям, з якімі хочацца сябраваць, насустрач краю, які мне блізкі і які хачу ведаць больш і лепш. Вельмі хачу прыехаць яшчэ. Спадзяюся, што гэта магчыма.

Гутарку запісала Дзіяна ЧАРКАСАВА.

НА ЗДЫМКУ: мастак Анатоль ЧАЙКОЎСКІ (у цэнтры) на сваёй выставе ў Мінску.

# ГРЭШНЫЯ ДУМКІ

## НА ТЭМУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**ГЭТЫ АРТЫКУЛ ВЯДОМАГА ПАЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА Масея СЯДНЁВА БЫЎ НАДРУКАВАНЫ Ў ГАЗЕЦЕ "РЭСПУБЛІКА". ЛІЧЫМ, ШТО ЯГО ПАВІНЕН ПРАЧЫТАЦЬ КОЖНЫ БЕЛАРУС. ПРАЧЫТАЦЬ І ГЛЫБОКА ЗАДУМАЦЦА.**

Зьнік носьбіт беларускай мовы — сялянства, а з ім адыходзіць у нябыт і беларускае слова. Беларускае слова жыло, калі сялянства было няпісьменным, яно гаварыла на сваёй прыроднай мове. Як толькі яно навучылася "грамаце", яно пачало здраджаць свайму слову на карысьць мовы таго ці іншага суседа. (Такая ўжо нашая натура).

Сяньняшняе пакаленьне — гэта ўжо нейкае нявыразнае пакаленьне: ні сяляне, ні інтэлігенты. Гэтае нявыразнае пакаленьне — ні калгасьнікі, ні інтэлігенты — у масе сваёй ужо не гаворыць пабеларуску. Сказаць-бы, ня толькі не гаворыць, а й ня ведае свае мовы. Нават пісьменнікі, тыя ў быту не гавораць пабеларуску. Пішуць на ёй, а не гавораць. Яна для іх толькі рабочая мова, пабочная, як-бы ня родная. Дзіўны фэнамэн, магчымы толькі хіба ў нас, беларусаў.

Выходзіць, у нас яшчэ ня склалася нацыянальная інтэлігенцыя ў поўным сэнсе гэтага слова. Інтэлігенцыя, якая ня толькі гаварыла-б пабеларуску, а й дбала-б пра сваё нацыянальнае, задавала-б тон. Я не гавару тут пра паасобных, нешматлікіх дзеячоў беларускай культуры, яны ёсць, але яны пакуль што ў загоне і ня могуць супрацьстаяць антыбеларускім сілам, як вонкавым, гэтак і ў сваім-жа, беларускім асяродзьдзі. Можа нехта нават падумаць, што беларус ня бача патрэбы ў сваёй мове, не ўсьведамляе ейнае неабходнасьці. Ну што-ж, ёсць людзі і такіх паглядаў, але гэта ўжо або наўмысная прапаганда, палітыка, або проўнае неразуменьне свайго нацыянальнага прызначэньня самім-жа беларусам.

А беларусу-ж наканавана быць беларусам, нават каб ён не хацеў ім быць, бо-ж — добра ці дрэнна — ён нарадзіўся гэтакім, зьявіўся на сьвет Божы, і куды-б ён ні пайшоў, да каго-б ні прыставаў, да якой мовы, да якой культуры ні далучаўся-б, ён усё роўна па прыродзе сваёй будзе заставацца — можа нават неўсьведамляючы гэтага — беларусам, а галоўнае — яго гэтакім будуць лічыць, не зважаючы на ўсе высілкі прыстасавацца. Выхаду тут іншага няма, як толькі заставацца тым, кім ты нарадзіўся.

Праўда, беларус любіць, каб яго папхнулі, загадалі, каб беларускую мову нехта ўвёў ва ўжытак дэкрэтыўна, як гэта было ў дваццатыя гады, падчас гэтак званай беларусізацыі. (Гучыць парадаксальна — беларуса трэба беларусізаваць). Ага, пачалася палітыка беларусізацыі, я загаварыў пабеларуску, пачалася палітыка русіфікацыі, я не пратэставаў, а пачаў дапасоўвацца да гэтай палітыкі, а то й сам уключыўся ў працэс гэтай русіфікацыі.

Ды зьвяў, якая запанавала сёньня ў пытаньні беларускай мовы, нельга вытлумачыць толькі палітыкай русіфікацыі, як нам гэтага ні хацелася-б. Палітыка русіфікацыі, бязумоўна, згубная, яна зрабіла сваё, адмаўляць гэтага ніяк нельга, але й ня прызнаць факту нашай слабасьці таксама нельга: мы за сваё не змагаемся, голасу свайго не падаём, баімося — ціхенькія, як-бы й ня існуем.

Але-ж, халерачка, існуем! Мы-ж — хоць тут здохні — беларусы, у нас-жа вунь і рэспубліка называецца беларускай. А што мы робім для гэтай беларускасьці? Ня шмат. Не баюся сказаць — гэта ўжо сапраўды грэшныя думкі, — каб ня тая славутая, раней сталінская, а цяпер ленінская нацыянальная палітыка, якой урад (хоць фармальна) мусіць прытрымлівацца, магчыма, ня было-б, па нашай руплівасьці, нават і тых беларускіх выданьняў, якія мы маем сёньня... Прыкладам, пачалі-б іх адно па адным зачыняць, я ня ведаю, закрычэлі-б мы, выказалі-б сваю нацыянальную волю ці не.

Возьмем такі факт. Тыражы беларускіх выданьняў абразліва нізкія. У гэтым вінаваты ня толькі там нейкі Саюздрук ці нехта асабіста, а й мы самі. Чаму-б нам, скажам, не падпісацца масава на часопісы "Маладосьць", "Полымя", "Крыніцу", на газэту "ЛіМ", нават на тую-ж "Зьвязду" — глядзі, як падскочылі-б тыражы гэтых выданьняў! Гэта было-б сьведчаньнем нашага (ні чыйго, а нашага) клопату пра беларускую мову, культуру.

Адно ўжо гэта падняло-б наш аўтарытэт, як нацыі. Мы-ж — што ні гавары — усё-такі нацыя. Што — мы чакаем пакуль нехта дырэктыўна падніміць нам тыражы? Увядзе ў школу беларускую мову? Мы прывыклі, каб намі кіравалі, нам загадвалі. Сваёй волі мы ня маем ці што? ...час перабудовы і галоснасьці яе можна было-б ужо і выказаць. Дык не — маўчым. Адных толькі гілевічаў і тутэйшых замала — трэба паказаць свой характар усім, узьняцца мусіць увесь народ за сваю родную мову, за сваю школу, за сваё, за беларускае. Пытаньне беларускай мовы стаіць пагрозьліва: або мы будзем карыстацца ёю — і яна выжыве, або занядбаем яе — і яна зьнікне. Мова, на якой не гаворыць народ — ня мова. Народ, які зракаецца свае мовы — не народ! Народ, які сьвядомы самога сябе, ня цураецца свае мовы нават і пры самых цяжкіх умовах. Пэсімістычна? Не — праўдзіва.



Ансамбль песні і танца "Міране" добра ведаюць у Баранавіцкім раёне. Яго выступленні цёпла сустракаюць не толькі рабочыя і служачыя конезавода-камбіната "Мір", дзе ён заснаваны, але і гледачы Мінска і Брэста, Прыбалтыкі і Польшчы. Калектыў — удзельнік многіх фальклорных фестываляў, лаўрэат трэцяга Усесаюзнага агляду-конкурсу самадзейных артыстаў.

У рэпертуары "Міран" — беларускія песні і танцы, якія бытуюць на Брэстчыне. У ансамблі — каля сарака аматараў народнага мастацтва, сярод якіх палаводы, жывёлаводы, служачыя, рабочыя, настаўнікі.

НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі ансамбля "Міране"; салістка калектыву, работніца мясцовага Дома культуры Зоя ФІЛАНЧУК.

Фота Э. КАБЯКА.

ЗАГАДКІ СТАРАЖЫТНЫХ ПАДАННЯЎ

# «СВАТАННЕ» УЛАДЗІМІРА ДА РАГНЕДЫ

Ёсць у дзіўнай мове "Слова пра паход Ігаравы" адзін, даволі загадкавы ўстойлівы выраз, які знаходзім у наступнай фразе: "Траяну кінуў Усяслаў жэрабя аб дзяўчыне сабе любай". "Кідаць жэрабя аб дзяўчыне" — гэта, зразумела, метафара, пераасэнсаванне, якое ў старажытнарускі час было добра зразумелае кніжнікам, летапісцам, складальнікам літаратурных твораў. Гэта было не простае "жэрабя", яно азначала жаданне перамогі, сведчыла аб прэтэнзіях на ўладу. Той, хто кідаў такое незвычайнае "жэрабя", уступаў у смяротную барацьбу, у якой або перамагаў, або гінуў. У згаданай фразе аўтар "Слова..." намякае на адзін вельмі яркі эпізод бурнага жыцця князя Усяслава Брачыславіча Полацкага — пра тое, як ён трапіў на кіеўскі велікакняжацкі стол у 1068 годзе, але ўтрымацца на ім не здолеў (падрабязна гэта гісторыя апісана ў кнізе М. Ермаловіча "Старажытная Беларусь"). Але адкуль такое нязвычайнае значэнне ў такім знешне простым выразе "кідаць жэрабя аб дзяўчыне любай"? Можна думаць, што ля вытокаў гэтага пераасэнсавання была пэўная рэальная падзея, якая ўразіла сучаснікаў, здалася ім вельмі павучальнай.

Першым у літаральным сэнсе кінуў жэрабя аб дзяўчыне князь Уладзімір Святаславіч, вялікі хрысціцель Русі. А дзяўчынай была полацкая князёўна Рагнеда. Было гэта ў 980 годзе. У той час Рагнеда з'яўлялася на Русі амаль адзінай вялікай князёўнай, законны шлюб з якой даваў маладому яшчэ, але надзвычай энергічнаму і ўладалюбіваму наўгародскаму князю надзею, што яго дзеці атрымаюць законныя правы на вярхоўнае княжэнне. Тое, аб чым ідзе гаворка, — далёка не дробязь у апісваемы час. Успомнім, як "вешчы" Алег, ваявода і галоўны дарадчык князя Рурыка, прыбыў у Кіеў, дзе панавалі Аскольд і Дзір. "Не князі вы і не княжацкага роду", — з пагардай сказаў Алег кіеўскім правіцелям. І забіў іх. З тае пары княжылі ў Кіеве прадстаўнікі княжацкай сям'і Рурыкавічаў.

Уладзімір Святаславіч быў "робичичем", як называла яго Рагнеда. Аднак "робичич" — гэта не "сын рабыні" ў прамым сэнсе. Гэта князь, але іншай княжацкай галіны, іншай крыві, не з роду Рурыкавічаў. Таму для Рагнеды Уладзімір — "раб".

Уладзімір, згодна з летапісам, быў сынам Малушы і князя Святаслава, а Малуша была ключніцай у яго бабкі, княгіні Вольгі. Але сапраўднае паходжанне Уладзіміра хавае вялікая таямніца. Летапісная ж версія, мы ўпэўнены, гэта зноў-такі ўмела падрэтушаваная легенда, у стварэнні якой былі зацікаўлены як праваслаўная царква, так і кіруючая кіеўская дынастыя. У "Повести временных лет", дарэчы, ёсць эпізод, які дазваляе здагадвацца, што Святаслаў не лічыў Уладзіміра сваім сынам. Калі наўгародцы прыйшлі да Святаслава прасіць сабе князя, той здзівіўся і запытаў: "А хто б пайшоў да вас?" Пайсці сапраўды не было каму. Два сыны Святаслава ў той момант ужо мелі княжэнні: Яраполк сядзеў у Кіеве, а Алег — у драўлян, ва Ускарасцені, ці Оўручы. Яны і адмовіліся ісці ў Ноўгарад. Уражанне такое, што пра Уладзіміра як пра князя Святаслаў і не ўспамінаў. Жытомірскі даследчык Яўген Паўленка, які ў 1990 годзе ў Кіеве ў выдавецтве "Радзянський письменник" выпусціў кнігу "Миф вокруг похода — Игорю", лічыць, што Уладзімір быў сынам Малушы (у іншых частках летапісу — Малфрыды, Малфрэды), прыёмнай дачкі княгіні Вольгі, і кагана хазарскага Малка (сына Мала).

... Рагнеда, калі адмаўляла Уладзіміравым сватам, і думаць не магла аб тым, што здарыцца з ёю праз некалькі месяцаў. Думкі яе былі заняты хуткім пераездам у Кіеў, да Яраполка. Рагнеда фактычна была ўжо не нявестай, а жонкай Яраполка. Па сведчанню даследчыка Я. Паўленкі, вяселлі на Русі, ды і ў іншых славян, наладжваліся восенню, пасля збору ўраджаю, шлюбныя ж адносіны фактычна пачыналіся ў ноч на Івана Купалу, летам, а з ыны адбываліся яшчэ раней ясной. Уладзімір з велізарным войскам асадзіў Полацк зімой 980 года (некаторыя даследчыкі лічаць, што гэтыя падзеі адбываліся ў 978 годзе).

Рагнеду з збіраліся везці ў Кіеў, бо ў сакавіку ў яе павінна было нарадзіцца дзіця (будучы князь Ізяслаў Полацкі). Знамянальна, што Уладзімір Святаславіч завяшчаў кіеўскі стол пасля сябе не Ізяславу і не Святаполку (апошні нарадзіўся пасля таго, як Уладзімір ужо ў Кіеве захапіў яшчэ адну жонку Яраполка — грачанку, якая ў той момант "бе непраздна"), а князю Барысу, які быў яго любімым сынам. Дарэчы, Ізяслаў, сын Рагнеды і Яраполка, памёр, згодна з летапісам, у 1001 годзе, за 14 гадоў да смерці Уладзіміра Святаславіча. У 1000 годзе памерла Рагнеда. А ў 1003 годзе — Усяслаў, сын Ізяслава. Вельмі дзіўная гэта паслядоўнасць смерцяў наводзіць на думку, што Рагнеда, Ізяслаў і Усяслаў Ізяславіч "памерлі" з дапамогай Уладзіміра. Ішла барацьба за ўладу, таму, калі б не "дапамог" Уладзімір "памерці" сваім праціўнікам, то сам быў бы пазбаўлены ўлады, а магчыма, і жыцця. Успомнім у гэтай сувязі наш аналіз летапіснай легенды аб тым, як Рагнеда спрабавала зарэзаць ноччу свайго мужа Уладзіміра Святаславіча ("Голас Радзімы", № 38).

Апошнія гады праўлення Уладзіміра Святога былі для яго вельмі цяжкімі. У 1013 годзе ён выкрыў змову тураўскага князя Святаполка і зняволіў яго. Праўда, неўзабаве вымушаны быў выслаць таго ў горад Вышгарад, бо не жадаў нявыгаднага для сябе абвастрэння адносін з польскім правіцелем Баляславам Першым, які заступіўся за свайго зяця Святаполка. У 1015 годзе Уладзімір вымушаны быў хутка збіраць войска, каб "правучыць" яшчэ аднаго свайго сына — Яраслава Наўгародскага, які адмовіўся плаціць даніну Кіеву. У час падрыхтоўкі да паходу на Ноўгарад Уладзімір раптоўна памёр (зноў — раптоўная смерць!), і ў Кіеве адразу ж з'явіўся Святаполк. Ці не прычыніўся ён да смерці свайго айчыма, якога ненавідзеў усёй душой і якога лічыў узурпатарам (Уладзімір у 980 годзе захапіў Кіеў і забіў свайго зводнага брата Яраполка, бацьку Святаполка і Ізяслава). Вось якія таямніцы хаваюць летапісы.

... Нам засталося высветліць апошняе пытанне, якое мае прамое дачыненне да асноўнай тэмы нашага апавядання. Ці не дзіўна, што кіеўскі князь Яраполк не аказваў полацкаму князю Рагвалоду ніякай ваеннай дапамогі і нават не выратаваў сваю жонку Рагнеду, калі войскі Уладзіміра падышлі да Полацка? На самай справе ў Яраполка не было ніякай магчымасці дапамагчы Рагвалоду. Уладзімір дзейнічаў не толькі сілай, але і абапіраўся на апазіцыйныя Яраполку колы ў самім Кіеве. Калі вялікі кіеўскі князь Яраполк даведаўся аб смерці Рагвалода і лёсе Рагнеды, ён здолеў сабраць дружыны і паслаць іх у напрамку Полацка. Але на рацэ Друці, у трох днях шляху ад Смаленска, кіеўскія ваяводы апусцілі знамёны Яраполка і абвясцілі славу Уладзіміру. Пачыналася новая эпоха ў айчыннай гісторыі, аб якой невядомы пясняр "Слова пра паход Ігаравы" заўважыў: "О, стагнаці Рускай зямлі, успамінаючы першыя часы і першых князёў!"

**Аляксандр РОГАЛЕЎ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# ДАПАМАЖЫЦЕ СТВАРЫЦЬ МУЗЕЙ

**ПАВАЖАНЫЯ ЗЕМЛЯКІ, ЗАМЕЖНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!**

**Звяртаюся да вас, як да людзей, якія помняць і любяць сваю Радзіму, свой народ. Ведаю, што вас ніколі не пакідала памяць аб сваіх блізкіх, аб родных і дарагіх сэрцу мясцінах. Вы заўсёды знаходзілі магчымасць паслаць на Радзіму аб сабе вестачку, пацікавіцца, як жывуць вашы землякі ў Беларусі. Напэўна і самі вы атрымлівалі пісьмы, паштоўкі ад родных і сяброў. І памяць заўсёды вяртала вас да далёкіх, але блізкіх сэрцу мясцін. Беражліва складвалі і захоўвалі вы гэтыя лісты, каб потым, каторы раз, іх перачытаць, вярнуцца ў сваіх успамінах у мінулае. Так з года ў год з дапамогай паштовай сувязі вы падтрымлівалі кантакты са сваёй Радзімай, роднымі і блізкімі. Многім з вас выпала шчасце прыехаць у Беларусь і пабываць у тых вёсках, адкуль вы родам. Я таксама ўспамінаю гэтыя сустрэчы. Таму што 28 гадоў працаваў у мінскім "Інтурысце", і разам з работнікамі газеты "Голас Радзімы" і таварыствам "Радзіма" мы заўсёды з цеплынёй сустракалі вас.**

**Прыязджаючы з кароткім візітам на Радзіму, многія з хваляваннем расказвалі нам аб перажытым, аб тым, як беражліва вы захоўвалі памяць пра сваё дзяцінства, свой край. Расказвалі, што і па сённяшні дзень у вас захоўваюцца гэтыя маленькія паштовыя пасланні з Бацькаўшчыны.**

**Але як захаваць гэтую сувязь, гэтую памяць на навуку нашчадкам?**

**Сёння ў Беларусі ствараецца музей пошты. Менавіта тут, на нашу думку, маглі б знайсці сваё месца і вашы канверты, паштоўкі, маркі, якія на працягу доўгіх гадоў звязвалі вас з Радзімай. Беларускія філатэлісты цяпер заняты пошукамі такіх прадметаў паштовай сувязі. Менавіта гэта паслужыла прычынай таго, што мы звяртаемся да вас, паважаныя суайчыннікі, з просьбай дапамагчы ў падборы матэрыялу для нашага музея. Прысылайце, калі ласка, калі ў вас захаваліся такія канверты, маркі, паштоўкі далёкіх мінулых гадоў. Яны папоўняць экспазіцыі нашага будучага музея пошты. Бо разбураныя вайной гарады і вёскі Беларусі не захавалі ўсяго гэтага. А нашу гісторыю трэба берагчы, узнаўляць і ствараць новыя помнікі культуры, у тым ліку і з дапамогай паштовых рэчаў.**

**Людзей, захопленых пошукам паштовых марак — філатэлістаў — сёння налічваюцца многія мільёны. Бо не сакрэт, што і маркі, і канверты, і паштоўкі нясуць мноства гістарычных звестак. У іх закладзены эстэтычныя пачаткі, таму яны з'яўляюцца фактам культурнага жыцця грамадства. Такая прырода філатэліі: прыватнае пісьмо, пасланае чалавекам чалавеку, яна ператварае ў дакумент эпохі. Вось чаму любое ваша пасланне нам з такімі матэрыяламі мінулых гадоў дапаможа беларускаму Саюзу філатэлістаў у зборы матэрыялу для стварэння музея.**

**Саюз філатэлістаў Беларусі будзе ўдзячны ўсім, хто адгукнецца на наш зварот. А калі хто-небудзь з вас сам захоча стаць членам Саюза філатэлістаў Беларусі, — калі ласка, звяртайцеся да нас на адрас:**

**220002, г. Мінск-2,**
**абан. скрыня 8.**
**Саюз філатэлістаў Беларусі.**

**З найлепшымі пажаданнямі**
**Старшыня праўлення**
**Саюза філатэлістаў**
**Беларусі**
**Анатоль ЛІСОЎСКІ.**



Ля кінатэатра "Кастрычнік" у Баранавічах.

Фота Э. КАБЯКА.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 1461.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12